# наша свабода

№92(179) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

27 ЖНІЎНЯ 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Лукашэнку не запрасілі на сьвяткаваньне



Сярод цывілізаваных прэзідэнтаў Лукашэнку не месца

Украінскі прэзыдэнт Леанід Кучма запрасіў у Кіеў сваіх калегаў з Расеі й Польшчы. А незапрошаны Аляксандар Лукашэнка тым часам зноў заявіў, што дзяржаўны доўг Украіны перад Беларусьсю складае 250 мільёнаў даляраў – украінскі бок гэта адмаўляе.

24 жніўня Украіна сьвяткавала 10-годзьдзе сваёй незалежнасьці. 24 жніўня 1991 году пасьля няўдалага савецкага путчу ўкраінская Вярхоўная Рада надала статус канстытуцыйнага закону Дэкляраці пра дзяржаўны суверэнітэт Украіны.

Аляксандру Лукашэнку ня выпала адсьвяткаваць ўгодкі ўкраінскае незалежнасьці. Для прэзыдэнта Украіны Леаніда Кучмы галоўнымі гасьцямі сталі ягоныя калегі з Расеі й Польшчы – Уладзімер Пуцін і Аляксандар Квасьнеўскі.

Я патэлефанаваў у Кіеў прэсаваму сакратару прэзыдэнта Кучмы Аляксандру Мартынэнку й задаў яму пытаньне:

***— Чаму ў Кіеў не запрасілі спадара Лукашэнку?***

— Адказваю: на сьвята мы не запрашалі нікога.

***— А чаму прыехалі Пуцін і Квасьнеўскі?***

— Таму, што гэта было паводле дамоўленасьці бакоў. Дасягнутая такая дамоўленасьць з прэзыдэнтамі, улічваючы той факт, што Расея й Польшча ёсьць стратэгічнымі партнэрамі Украіны.

***— Беларусь ня ёсьць стратэгічным партнэрам?***

— Ну, у нас заяўленае стратэгічнае партнэрства з Расеяй і Польшчай. і яшчэ са Злучанымі Штатамі, — сказаў Аляксандар Мартынэнка, прэсавы сакратар прэзыдэнта Украіны.

Пакуль прэзыдэнты Расеі й Польшчы былі ў Кіеве, Аляксандар Лукашэнка наведваў Баранавічы, дзе, у прыватнасьці, заявіў, што Украіна павінна вярнуць Беларусі 250 мільёнаў даляраў. Неадназаровыя Лукашэнкавы заявы пра ўкраінскі дзяржаўны доўг Менску пракамэнтаваў на сваёй прэсавай канфэрэнцыі з нагоды сьвята амбасадар Украіны ў Беларусі Анатоль Дронь: «Зьнешняга доўгу няма. Нідзе гэта не прызнана й не зафіксавана. Ёсьць пытаньні ўрэгуляваньня даўгавых забавязаньняў суб'ектаў гаспадараньня за 1992 год. Некаторыя журналісты называюць гэта дзяржаўным доўгам. Ніколі не было дзяржаўнага доўгу!»

Аднак Аляксандар Лукашэнка на сваёй апошняй даступнай для ўсіх журналістаў прэсавай канфэрэнцыі 5 траўня 1998 году адкрыта заявіў: пакуль Украіна ня верне Беларусі даўгі, «палата прадстаўнікоў» не ратыфікуе двухбаковую дамову пра дзяржаўную мяжу. І сапраўды, Аляксандар Лукашэнка ўжо некалькі гадоў не дасылае гэтую дамову на ратыфікацыю ў «палату».

Ці мае Украіна з кім-небудзь са сваіх суседзяў такую ж праблему зь мяжой, як зь Беларусьсю? Вось як адказаў мне на гэтае пытаньне амбасадар Дронь: «Украіна зараз вырашае праблему мяжы з Расейскай Фэдэрацыяй – завяршаецца дэлімітацыя мяжы, а яна ў нас найбольш працяглая. Зь іншымі краінамі было пытаньне з Малдовай — у нас адбылся абмен зямельнымі ўчасткамі.

То бок засталася не праблема, а такія пытаньні зь Беларусьсю... Увогуле, праблемы ніводнай у нас няма зь мяжой. Ёсьць тэхнічная гэтая праблема ратыфікацыі дамовы. і ўсё».

29 жніўня ля ўкраінскай амбасады ў Менску будзе адкрыты помнік Тарасу Шаўчэнку. Чакалі, што на цырымонію прыедзе прэзыдэнт Леанід Кучма. Аднак ягоны прэсавы сакратар Аляксандар Мартынэнка сказаў мне, што нічога ня ведае пра такія пляны спадара Кучмы.

**Юры СЬВІРКО**
**Радыё «Свабода»**

## Олега Божелко вернули на родину

По имеющейся информации, на белорусском телевидении готовится выступление бывшего генерального прокурора Беларуси Олега Божелко, который вернулся в Минск после того, как в течение нескольких месяцев скрывался в Москве. Приезд Олега Божелко стал результатом операции белорусского КГБ при содействии Федеральной службы безопасности России.

В минувшую среду экс-генеральный прокурор, казалось бы, собирался подтвердить информацию о судьбе бесследно исчезнувших белорусских политиков. Чуть раньше ее рассекретили работники прокуратуры Случек и Петрушкевич, а также бывший начальник СИЗО-1 Олег Алкаев. Но пресс-конференцию в Москве Божелко проводить не стал. Потому что его вернули в Минск. Это подтверждает предположение, что правду от запуганного Божелко так и не удастся услышать.

Как известно, именно Божелко, будучи Генеральным прокурором, дал санкцию на арест Дмитрия Павличенко, подозреваемого в похищениях и убийствах известных политиков и журналистов. После ареста Павличенко был помещен в следственный изолятор КГБ, но освобожден по приказу Александра Лукашенко. Есть сведения, что Божелко лично допрашивал Павличенко.

Будет ли он теперь под угрозами расправы опровергать то, что говорил ранее, и то, что известно всем его бывшим коллегам, неизвестно. Ясно только, что он вернулся в Беларусь не по собственной воле. Ясно и то, что теперь каждый его шаг контролируется спецслужбами. Власть хочет скрыть свои преступления. И для этого не устоит ни перед чем.

**www.goncharik.org**

## Дэпартавалі амерыканца

Улады Беларусі выслалі з краіны грамадзяніна ЗША Роберта Філдзінга. Як паведамляе агенцтва «Інтерфакс» са спасылкай на цэнтр інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ Беларусі, у якасці нагоды для высылкі была названая «дзейнасць, што з'яўляецца ўмяшальніцтвам ва ўнутраныя справы краіны».

Супрацоўнік аднаго з прафсаюзных цэнтраў ЗША абвінавачваецца ў ажыццяўленні адкрытай агітацыі за адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад шырокай грамадзянскай кааліцыі Уладзіміра Ганчарыка. Прадстаўнікі КДБ сцвярджаюць, што Р.Філдзінг публічна заяўляў пра непрызнанне міжнароднымі структурамі і арганізацыямі цяперашняй беларускай улады, а таксама «каардынаваў падрыхтоўку сілаў апазіцыі да атрымання патрэбнага выніку прэзідэнцкіх выбараў».

Роберту Філдзінгу забаранілі ўязджаць на тэрыторыю Беларусі на працягу пяці гадоў. Пры гэтым КДБ папярэдзіў, што «любыя спробы ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы замежных грамадзянаў незалежна ад іхняга статусу будуць спынены – аж да прымусовай дэпартацыі з краіны».

**Ірына СТАРЦАВА**

## Параллель с Никарагуа

Американский посол в Минске Майкл Козак, известный специалист по латиноамериканским режимам, в своем письме в английскую газету «Гардиан» подтвердил определенную параллель между Никарагуа образца 1989-1990 годов и сегодняшней Беларусью. «Наша задача и в определенной степени методология те же самые. Тогда мы работали с сандинистскими властями, Организацией американских государств, другими странами региона и бывшим Советским Союзом, чтобы содействовать свободным, справедливым и прозрачным выборам. Сегодня мы работаем с Организацией по безопасности и сотрудничеству в Европе, Ассоциацией организаторов выборов в Центральной и Восточной Европе и государствами-членами ОБСЕ, включая членов Евросоюза, чтобы побудить белорусские власти создать какой-нибудь минимум доступа оппозиции к прессе и прозрачности процесса подсчета голосов», — написал М.Козак.

По словам М.Козака, бывший никарагуанский президент Ортега никогда не оспаривал результат выборов, которые он проиграл. Более того, «он сейчас пользуется преимуществами созданной тогда системы как ведущий кандидат на предстоящих выборах».

«Наша задача в Беларуси, как и задача других членов ОБСЕ, — помочь Беларуси в развитии избирательной системы, отвечающей международным стандартам, которым Беларусь обязалась следовать при вступлении в ОБСЕ», — подчеркивает М.Козак и добавляет, что если таковая система имеет место быть, то именно белорусские избиратели, а не он или кто-либо другой, «будут решать, кому править их страной в течение нескольких следующих лет».

**Агентство «Ю.С.Ньюс»**
**(www.yusnews.com)**

# Нашествие российских градоначальников

## *Руководители Москвы и Санкт-Петербурга окажут поддержку в обмен на продовольствие*

Буквально один за другим перед Лукашенко отмечаются разные российские деятели, заверяя правителя в своей поддержке перед президентскими выборами в Беларуси. Не успели остыть следы пребывания Зюганова и Жириновского, как в Минске на наступившей неделе должны появиться губернатор Санкт-Петербурга Владимир Яковлев и мэр Москвы Юрий Лужков. В оппозиции, да и не только в ней, нынешняя активность визитеров с Востока трактуется как грубое вмешательство во внутренние дела Беларуси. Жириновский и вовсе по-простому признался, что для россиян и белорусов Лукашенко является общим президентом, ибо занимает должность председателя Высшего госсовета так называемого союзного государства. Следует отметить, что лидеры КПРФ и ЛДПР открыто заклеймили и фактически отмежевались от своих белорусских, еще не так давно единомышленников. Некоторые московские источники предполагают, что за это главный коммунист России мог взять 500 тысяч долларов, а либералисимус – чуть больше. Естественно, для партийного строительства.

Что касается некогда могущественных региональных руководителей, коими до прихода Путина в Кремль считались Лужков и Яковлев, то они, после своего нашествия, надо полагать, увезут из Минска куда больший куш. Не секрет, что на протяжении последних лет Беларусь поставляет в белокаменную и северную столицы России большое количество продовольствия. И этот фактор может стать одним из основных при торге в Минске, на котором Лукашенко будет публично выражена поддержка для занятия им в очередной раз кресла главы государства. Правда, для граждан Беларуси порою не всегда тогда понятны явления, когда на своих прилавках они больше стали видеть российские продовольственные товары. И цены у них более высокие, чем у белорусских.

Известно, что одним из предвыборных ходов Лукашенко стала тема форсированного строительства минской кольцевой дороги. У его друга-учителя Лужкова также строительство своей кольцевой дороги остается актуальным. Можно вспомнить, как многие российские СМИ, контрольные государственные органы и другие отмечали массу злоупотреблений при ее строительстве. В частности, фиксировалось сознательное 10-сантиметровое сужение дорожного покрытия, что позволяло «закопать» гигантские суммы денег. Как полагают некоторые эксперты, причем не только оппозиционные, такой лужковский ноу-хау вполне может быть применен и на минской кольцевой дороге. При существующем в Беларуси режиме личной власти какие-либо виды парламентского, гражданского контроля за расходованием средств просто нереальны. Даже в российских вариациях контроля. Поэтому «раскопки» не могут производиться без согласия правителя. Так что заинтересованные стройподрядчики, что местные, что пришлые, могут быть спокойны. Если согласны играть с самодержцем. Правда, к примеру, бывший его управделами мог бы поделиться горьким опытом участия в таких играх. Но для российского дикого капитализма, как говорят коммунисты, нет ограничителей перед соблазном получения сверхприбылей. А белорусский «пирог», во всех видах, для них является лакомым.

*Окончание на стр.3*

## НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

1470

## Міліцыя ідзе напралом

25 жніўня ў 20.00 у офіс Магілёўскага рэгіянальнага штаба кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Ганчарыка спрабавалі пранікнуць супрацоўнікі міліцыі. Яны не прад'явілі ніякіх дакументаў, а мэтай іх візіту, паводле словаў вартаўнікоў парадку, з'явілася жаданне «паглядзець памяшканне». Дзяжурны Магілёўскай пракуратуры, куды звярнуліся за тлумачэннямі прадстаўнікі штаба, адмовіўся адказваць на пытанні, прапанаваўшы перазваніць на конт гэтага ў нядзелю.

Прыкладна ў 22.00 каля штаба сабраліся каля 30 яго членаў. Міліцыянеры прадпрынялі чарговую спробу пранікнуць унутр будынка, але ўжо з другога боку. У 23.00 будынак быў ачэплены міліцыяй. Міліцыянеры, нягледзячы на заўвагі вахцёра, увайшлі ў будынак, дзе размяшчаюцца абласныя структуры Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай, аднак у памяшканне штаба кандыдата ў прэзідэнты ўсё ж не змаглі пранікнуць. На некаторы час міліцыянеры затрымалі кіраўніка штаба Івана Салановіча і вялі з ім гутарку прама ў будынку.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ**

## Армия проголосует «правильно»

Об интересном «опыте» организации выборов в Беларуси на закрытых избирательных участках, которые располагаются в воинских частях, рассказала руководитель технологического штаба единого кандидата от широкой демократической коалиции Валентина Полевикова на встрече с журналистами.

Оказывается, белорусский «опыт» организации выборов состоит в том, что накануне голосования за второго президента страны весь личный состав белорусской армии будет переведен на казарменное положение. «В день выборов личному составу срочной службы и тем, кто прописан при воинских частях, а это постоянный состав, бюллетени для голосования выдаются именные. На обратной стороне карандашом проставляется порядковый номер согласно списка».

Таким образом, все знают, что их контролируют. И командованию будет доподлинно известно, кто и как проголосовал. После этого, естественно, начнутся внутренние разборки, результаты которых скажутся на продвижении по службе, получении очередного воинского звания, жилья, а для солдат срочной службы — своевременном увольнении в запас. Валентина Полевикова утверждает, что подобная практика была «обкатана» в частях во время проведения референдума в 1996 году и во время выборов депутатов нижней палаты белорусского парламента.

Как стало известно, в настоящее время в воинских частях белорусской армии постоянно прокручиваются видеофильмы о созидательной работе нынешнего президента за семь лет правления. За других кандидатов на высший государственный пост в стране агитировать запрещено.

**Иван ЛАВИЦКИЙ**

ТЭХНАЛОГІІ

## Прылятае дырэктар МАГАТЭ

29-30 жніўня ў Беларусі будзе знаходзіцца з візітам генеральны дырэктар МАГАТЭ Махамед эль-Барадзей.

Мэтай візіту з'яўляецца абмеркаванне з кіраўніцтвам краіны перспектываў развіцця супрацоўніцтва Беларусі і МАГАТЭ, азнаямленне з навукова-тэхнічным патэнцыялам краіны ў галіне ядзерных тэхналогіяў.

30 жніўня запланаванае наведванне Махамедам эль-Барадзеем саўгаса «Прыпяць» Мазырскага раёна Гомельскай вобласці, дзе генеральны дырэктар МАГАТЭ прыме ўдзел у цырымоніі адкрыцця прамысловай лініі па вытворчасці харчовага рапсавага алею.

**Андрэй АСМАЛОЎСКІ**

СПРАВЯДЛІВАСЦЬ

# Кандыдат абяцае рэабілітацыю страйкоўцам

У выпадку сваёй перамогі на прэзідэнцкіх выбарах Уладзімір Ганчарык абяцае рэабілітаваць удзельнікаў забастоўкі работнікаў Мінскага метро, якая адбылася 17-21 жніўня 1995 года. Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі 24 жніўня ў Мінску старшыня Дэмакратычнага прафсаюза транспартнікаў і віцэ-прэзідэнт Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Уладзімір Макарчук, які падчас той забастоўкі кіраваў Свабодным прафсаюзам работнікаў Мінскага метрапалітэна.

Паводле сцвярджэння Макарчука, словы Ганчарыка выклікалі гарачы водгук у метрапалітэнаўцаў, якія 6 гадоў таму падвергліся рэпрэсіям за правядзенне чатырохдзённай забастоўкі. Забастоўка была падаўленая міліцыяй, некалькі кіраўнікоў прафсаюзаў былі арыштаваныя, 58 работнікаў метро — звольненыя «за прагулы». Замест іх былі запрошаныя работнікі з Расіі і Оршы. Многія са звольненых гадамі не маглі ўладкавацца ні на якую працу. Двое са звольненых заўчасна памерлі.

Адразу пасля задушэння забастоўкі ў розныя міжнародныя прафсаюзныя арганізацыі і Міжнародную канфедэрацыю працы былі накіраваныя пратэсты. У выніку ўраду Беларусі былі адрасаваныя звароты з патрабаваннямі стварыць камісію па праверцы прычынаў, якія прывялі да забастоўкі і яе сілавога падаўлення. Гэтыя патрабаванні, адзначыў Макарчук, не маюць тэрміну даўніны і актуальныя да гэтага часу.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# А вы на каго падумалі?

Маладыя выбаршчыкі Магілёва зрабілі сабе кашулькі з надпісам «Скажи дураку «нет»!» і пачалі фарсіць у іх па горадзе. Але вельмі нядоўга. Праз пэўны час іх ушчаміла мясцовая міліцыя. Ажно ўзяла ў асаду тое месца, дзе гэтая моладзь вечарамі збіралася. Магілёўскія вертыкальныя начальнікі, мусіць, палічылі сябе моцна абражанымі, бо ім заўсёды было дакладна вядома, хто той «дурак», пра якога напісалі на кашульках. Праз гэты выпадак зараз скрозь усе магілёўцы здагадаліся, каго мелі на ўвазе начальнікі, і ўголас смяюцца. Мода на такія кашулькі стане хітам асенняга магілёўскага сезону.

Жыццё нічому не вучыць нашых дзяржаўцаў. Гады два назад на вуліцах Мінска арыштоўвалі хлопцаў, у якіх на кашульках было напісана «Я знаю, кто самый большой дурак в нашей стране». Быў вялікі смех і сорам. Потым пачалі хапаць тых, у каго на грудзях ззяў надпіс «Зубр». Скончылася гэта падарункамі гуманітарнай вопраткі для міліцыі. Зноў сорам. Каторы ўжо год па загадах зверху нашыя міліцыянты вядуць бязвыніковую, тлумную, сапраўды дурную барацьбу з нацыянальнай сімволікай, якая, між іншым, лёгка вытрымала ўсе вынеўдзюрыстыя наскокі на яе на працягу стагоддзяў. Напрыклад, германскіх рыцараў часоў Грунвальда. Няўжо нашае начальства сапраўды думае, што менавіта яму наканавана скончыць гісторыю белчырвона-белага Сцяга і герба «Пагоня»? Калі так, то на кашульках пішуць святую праўду, і слова «дурак» набывае значэнне спецыяльнай беларускай сацыялагічна-медыцынскай назвы.

Гэта, між іншым, нагадвае безвыніковую барацьбу чалавека з ветрам, дажджом, адлігай, сонцам. «Дурак» – слова кепскае, абразлівае, хоць і літаратурнае. Але ж яно не горшае, скажам, за расійскія мацюгі, якімі аздоблена ўсё нашае грамадскае жыццё. З мацюгамі чамусьці наша міліцыя ўвогуле не змагаецца. Больш таго, некаторыя міліцыянты мацюгі распаўсюджваюць і прапагандуюць. У рамках інтэграцыі славянскіх народаў. А на слове «дурак» іх раптам кліньць. Што такое? Пэўна, у кожнага з іх ёсць вельмі дакладныя асацыяцыі з нейкай важнай персонай. З нейкім вельмі мудрым чалавекам. З нейкім надзвычай важным начальнікам. Таму калі дзе-небудзь на вуліцы вы пабачыце напісанае слова «дурак», то паведамляйце, калі ласка, нашым міліцыянтам. Яны прыедуць і зафарбуюць. Каб, бараці Божа, хто не падумаў на каго не трэба. А вы на каго падумалі?

**Аляксандар ДУБРАВІН**

ЛЮСТРАФАКТ




Фота Ул.ШЛАПАКА

Лукамольцы выказалі свае пачуцці да Лукашэнкі на сцяне магазіна каштоўнасцяў «Яхант» (Кісялёва, 28). Тры дні рабочыя мясцовай ЖЭС баяцца замазаць графіці ў такі высокі адрас

# «Служба 9.09.» пачала сваю працу

Напярэдадні выбараў грамадскае аб'яднанне «Маладая Грамада» ладзіць кампанію «Служба 9.09», якая дзейнічае на гарадах, што маюць прамысловыя прадпрыемствы. Мэта акцыі — папулярызацыя выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Акцыя «Служба 9.09» папулярызуе дату выбараў – 9 верасня, каб прадухіліць магчымыя падтасоўкі выбінікаў падчас папярэдняга галасавання.

Першая акцыя «Служба 9.09» адбылася ў Мінску. Ля ўваходу ў дыскатэку кожны 9-ты наведвальнік атрымліваў у падарунак кепку «ВЫБІРАЙ» і буклет «Ты выбіраеш Сам!». Падчас дыскатэкі за столікамі працавала «Служба знаёмстваў 9.09», праз якую можна было даслаць паштоўку любому чалавеку, што знаходзіўся ў зале, каб пазнаёміцца з ім. Патэнцыйных пар налічвалася каля 100. Але самы вялікі падарунак чакаў чалавека, які нарадзіўся 9 верасня – гэтая ноч абвяшчалася «ноччу народжанага», які на 6 гадзінаў станавіўся прэзідэнтам дыскатэкі.

Чакаецца, што акцыі «Служба 9.09.» да выбараў пройдуць па ўсіх буйных прамысловых цэнтрах краіны.

**Сяргей БЯЛЕВІЧ**

РАКУРС

## Даходы кандыдатаў

24 жніўня ў афіцыйнай прэсе апублікаваныя звесткі пра даходы за 2000 год і маёмасць кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, прадстаўленыя імі ў Цэнтральную камісію па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў.

Згодна з абнародаванымі матэрыяламі, сукупны гадавы даход Сяргея Гайдукевіча летась склаў 569.906 рублёў. Крыніцы даходу – пенсія і Ліберальна-дэмакратычная партыя, якую ён узначальвае. Сумесна з членамі сваёй сям'і Гайдукевіч таксама валодае кватэрай у Мінску плошчай 63,6 квадратныя метры, жылым домам у Мінскім раёне плошчай 201,1 кв.м. і зямельным участкам плошчай 0,25 га там жа. Акрамя таго, у яго ёсць 2 аўтамабілі «МАЗ», аўтамабілі «БМВ», «ГАЗ» і два прычэпы. Жонка Гайдукевіча ў 2000 годзе не мела ніякага даходу, яна з'яўляецца суўласніцай узгаданых кватэры, дома і зямельнага ўчастка. Даход сына Гайдукевіча склаў 2.822.073 рублі, яго крыніцы — ГУУС Мінгарвыканкама і даходы ад продажу кватэры. Бацькі Сяргея Гайдукевіча — пенсіянеры.

Сукупны даход кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Ганчарыка ў 2000 годзе склаў 5.315.098 рублёў. Яго крыніцы — Федэрацыя прафсаюзаў Беларуская, Міжнародны недзяржаўны інстытут працоўных і сацыяльных адносінаў, пенсія, а таксама даходы ад продажу аўтамабіля і гаража. Ганчарык з'яўляецца суўладальнікам кватэры ў Мінску плошчай 75,16 кв.м, гаража ў Мінскім раёне, а таксама мае прычэп, матаблок «МТЗ» і 21 акцыю ТАА «ПМК-8» г.Чэрвеня. Даход жонкі Ганчарыка летась склаў 365.943 рублі, яго крыніца — пенсія. Лілія Ганчарык валодае кватэрай у Мінску (сумесна з мужам), жылым домам у Мінскім раёне плошчай 64,6 кв.м і 21 акцыяй ТАА «ПМК-8» Чэрвеня. Сын і дачка кандыдата ў прэзідэнты маюць кватэры ў Мінску, аўтамабілі («Мазда-323» і «ВАЗ-2110» адпаведна) і акцыі некаторых прадпрыемстваў. Маці Ганчарыка — пенсіянерка, мае жылы дом у Лагойскім раёне плошчай 48 кв.м.

Сукупны даход кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі летась склаў 3.776.186 рублёў, крыніца даходу — Кіраўніцтва справаў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Лукашэнка з'яўляецца суўладальнікам жылога дома ў Шклоўскім раёне плошчай 115,71 кв.м. Даход яго жонкі, Галіны Лукашэнкі, склаў 742.175 рублёў, крыніца даходу — Магілёўскае абласное ўпраўленне Рэспубліканскага цэнтра па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні насельніцтва. Ей таксама належаць дом у Шклоўскім раёне і 56 акцыяў Шклоўскага масларобнага завода. Сын Лукашэнкі Віктар меў у 2000 годзе даход у 1.097.824 рублі, крыніца даходу — Дзяржкамітэт пагранічных войскаў Беларусі, яму належаць матацыкл ММВЗ. Маці кандыдата ў прэзідэнты — пенсіянерка, не мае ніякай маёмасці.

**Наталля КУЛАГІНА**

## «Магілёўскую» адчыняць пазней

Увод у эксплуатацыю станцыі мінскага метрапалітэна «Магілёўская» перанесены з 24 жніўня на пачатак наступнага тыдня.

Як паведаміў БелаПАН адказны работнік метрапалітэна, які пажадаў застацца невядомым, перанос адкрыцця станцыі звязаны з адсутнасцю ў Мінску прэзідэнта Лукашэнкі, які збіраўся прыняць удзел у цырымоніі ўводу «Магілёўскай» у эксплуатацыю (24 жніўня кіраўнік краіны знаходзіўся ў Бабруйску. — **БелаПАН.**). «Станцыя будзе адкрытая альбо ў панядзелак, альбо ў аўторак, хаця ў нас усё было гатова для яе ўводу ў пятніцу», — сказаў работнік метрапалітэна.

Станцыя «Магілёўская» — 20-я станцыя сталічнага метрапалітэна і 11-я станцыя яе другой лініі — закліканая паскорыць дастаўку ў цэнтр жыхароў мікрараёнаў Ангарская і Шабаны. Яна павінна была адкрыцца яшчэ тры гады таму, аднак працы зацягнуліся. Апошнім часам тэрмін іх завяршэння неадноййчы пераносіўся: спачатку гэта быў канец 2000 года, затым 30 жніўня 2001 года (дзень нараджэння Лукашэнкі) і, нарэшце, 24 жніўня.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

МАРАЛЬ

## Лилия Гончарик обвиняет Лукашенко во лжи

Выступая в пятницу в Бобруйске перед коллективом комбината «Белшина», Александр Лукашенко сказал, что при участии его главного конкурента на выборах Владимира Гончарика была проведена «хитрая операция», в результате которой был ликвидирован профсоюзный «Профбанк», на счетах которого хранились профсоюзные деньги.

«Однако появился «Индустриальный банк», обладателем 25 процентов акций которого стала жена В.Гончарика, сказал А.Лукашенко», — передал придворный корреспондент.

В интервью «Ю.С.Ньюс» Лилия Гончарик категорически опровергла эти утверждения и заявила: «Нет предела моему возмущению. Я уже устала от этой лжи. Ничего, кроме акций ПМК-8 города Червеня, у меня не было и нет. Да и от ПМК мы ни разу дивидендов не получали».

**Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com)**

## Каб госць не хваляваўся

24 жніўня ў Бабруйску адбылся разгон пікета ў падтрымку кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Ганчарыка на вул. 50-годдзя ВЛКСМ, дзе знаходзяцца інтэрнаты «Белшыны». Начальнік гарадскога ўпраўлення міліцыі Іван Заблоцкі асабіста папярэдзіў, каб людзі разыходзіліся, бо будуць арыштаваныя. Сваё дзеянні І.Заблоцкі патлумачыў тым, што ніхто з удзельнікаў пікета не з'яўляюцца членамі ініцыятыўнай групы У.Ганчарыка. На думку сябра Праваабарончага цэнтра «Вясна» Ігара Ходзькі, такія рашучыя дзеянні супрацоўнікаў міліцыі ў адносінах да ўдзельнікаў пікета звязаныя з "запланаваным у Бабруйск візітам А.Лукашэнкі, які будзе наведваць прадпрыемства «Белшына» і можа праехаць па вул. 50-годдзя ВЛКСМ».

**Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна»**

МЕДЫЦЫНА

## Узбекскага хлопчыка ў РБ не хочуць лячыць бясплатна

Суд Мінскага раёна не задаволіў скаргу сям'і Ганбярдзіевых на адмову ўрачоў Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра дзіцячай анкалогіі і гематалогіі лячыць іх сына.

Сям'я узбекаў Ганбярдзіевых жыве ў Брэсце без прапіскі. Нядаўна ў іх захварэў двухгадовы сын. Па дапамогу бацькі звярнуліся ў рэспубліканскі цэнтр дзіцячай анкалогіі, паколькі ў дзіцяці выяўлена «злаякасная пухліна». У цэнтры дзіцяці правялі адзін сеанс хіміятэрапіі, але далей лячыць бясплатна адмовіліся, паколькі хлопчык не з'яўляецца грамадзянінам Беларусі. Вярнуўшыся ў Брэст, бацькі звярнуліся па дапамогу ў брэсцкую абласную бальніцу, дзе дзіця некаторы час праходзіла сімптаматычнае лячэнне. Аднак, як сцвярджаюць урачы, яму неабходна лячэнне менавіта ў рэспубліканскім цэнтры.

Пасля таго, як суд не задаволіў скаргу бацькоў, узбекскі хлопчык фактычна застаўся без дапамогі. Бацькі маюць намер адкрыць спецыяльны рахунак, паколькі ў Брэсце знайшлося шмат людзей, гатовых аказаць сям'і фінансавую дапамогу. Для лячэння неабходна сабраць каля 15 тысяч долараў ЗША.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

# Стратэгія прыхаванага вандалізму

## Над лёсам нерухомай старажытнай спадчыны плануе панаваць адна асоба

*Не прыходзіцца даводзіць, як уплывае на людзей акаляючае асяроддзе і дзяржаўнае стаўленне да яго. Вынішчанае на загад беларускага ўрада мінскае замчышча пазбавіла памяці пра мінскую даўніну ўжо наступнае пакаленне гараджанаў. Пераробкі ўжо пасля вайны комплексу былога іезуіцкага кляштара і калегіума на плошчы Свабоды скалечылі яе выгляд да непазнавальнасці.*

Праблемы захавання старажытнай архітэктурнай спадчыны ў гарадах ускладняюцца сёння пераменамі ў формах уласнасці і недастатковым разуменнем дзяржаўнай бюракратыяй значэння спадчыны. На гэтай недасведчанасці будуюць свае тактычныя і стратэгічныя разлікі розныя дзялкі.

Адным з кампанентаў стратэгіі вывядзення нерухомасці з-пад дзяржаўнага кантролю мае стаць *праект пастановы Савета міністраў Рэспублікі Беларусь «Аб статусе гісторыка-культурных каштоўнасцяў помнікаў гісторыі і культуры, прынятых пад ахову да 1 студзеня 1993 г.»*. Яго магчымае зацвярджэнне пагражае катастрафічнымі наступствамі для нашай культуры.

Занепакоенасць такім зместам праекта падштурхнула шэраг аўтарытэтных спецыялістаў звярнуцца з калектыўным лістом у Савет міністраў РБ. Сярод пратэстантаў дактары гістарычных навук Г.Штыхаў, З.Шыбека, М.Гурын, Г.Куляшова, вядомыя археолагі, мастацтвазнаўцы, рэстаўратары С.Тарасаў, М.Спірыдонаў, Л.Ракава, В.Князева, Е.Пятросава, П.Русаў ды інш.

Выказаныя імі меркаванні маюць цікавасць для шырокіх колаў грамадскасці, бо неўзабаве можна страціць шмат з таго, што сёння ўтварае асяроддзе, у якім мы жывем і якое фармуе нашу нацыянальную псіхалогію.

«У аблвыканкамы і Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт дасланы на ўзгадненне праект пастановы Савета міністраў Рэспублікі Беларусь «Аб статусе гісторыка-культурных каштоўнасцяў помнікаў гісторыі і культуры, прынятых пад ахову дзяржавы да 1 студзеня 1993 г.». Па характары дакумента лёгка пазнаецца яго аўтарства: створаны ён у Камітэце па ахове гісторыка-культурнай спадчыны.

З'яўленне гэтага дакумента ёсць ні што іншае, як чарговая спроба схаваць факты невыканання Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны» ў частцы правядзення ўліку аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны і вывесці з-пад аховы дзяржавы больш за 90% помнікаў гісторыі і культуры.

Падобныя захады былі зроблены старшынём згаданага камітэта Бубноўскім Д.С. яшчэ ў 1998 годзе пры ўнясенні паправак у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны». Тады прапаноўвалася ў артыкуле 61 скасаваць палажэнне аб разглядзе Беларускай рэспубліканскай Навукова-метадычнай радай праектнай дакументацыі на рэстаўрацыю гісторыка-культурных каштоўнасцяў катэгорыі «2» і пазбавіць статуса афіцыйнага дакумента «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», які ён мае паводле адпаведнай пастановы ўрада. Гэта азначала б, фактычна, прыняцце рашэнняў па ўсім іх пераліку аднаасобна старшынём Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны. Наступствы такога падыходу да арганізацыі работ на помніках горадабудаўніцтва і архітэктуры можна назіраць у Мінску па вул. Камсамольскай, 5,7,9/16, дзе на падставе узгаднення камітэта былі знесеныя аўтэнтычныя гістарычныя будынкі і на іх месцы вядзецца новае будаўніцтва, на вул. Нямігa, калі на тэрыторыі унікальнага помніка горадабудаўніцтва не праводзілася, тым самым працэс складання дакумента не быў забяспечаны навукова абгрунтаванай інфармацыяй аб крытэрыях адбору каштоўнасцяў, вызначаных у артыкуле 19 Закона аб ахове спадчыны. Некаторыя прапановы, як прадстаўлены Беларускім добраахвотным таварыствам аховы помнікаў гісторыі і культуры дадатковы спіс архітэктурных помнікаў г. Мінска, які налічвае больш за 100 аб'ектаў, чакае неўласцівую яму функцыю самастойнай трактоўкі заканадаўства. Падобная працэдура не мае прававога абгрунтавання. Гаворка павінна ісці пра ўнясенне гэтых аб'ектаў у Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь з наданнем адпаведнай катэгорыі. Насуперак заканадаўчай працэдуры Камітэтам па ахове спадчыны праз раду праводзіліся рашэнні, калі помнікам, якія знаходзяцца пад аховай бяздзейнасць Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны.

Так, пункт 1 праекта пастановы прапануе «лічыць помнікі гісторыі і культуры рэспубліканскага значэння, прынятыя пад ахову дзяржавы пастановай СМ БССР ад 18 лютага 1988г. №32... гісторыка-культурнымі каштоўнасцямі катэгорыі «3». Аўтаматычнае паніжэнне статуса помнікаў рэспубліканскага значэння да катэгорыі «3», большасць з якіх адпавядае ўзроўню аб'ектаў агульнанацыянальнай спадчыны, і паводле заканадаўства павінна мець статус гісторыка-культурных каштоўнасцяў катэгорыі «1»—«2», не можа вызначацца навукова абгрунтаваным падыходам. Тым больш, што пры ўнясенні ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь шэрагу помнікаў гісторыі і культуры рэспубліканскага значэння быў ужо падняты статус да катэгорыяў «1» і «0».

Паводле пункта 2 праекта пастановы, прапануецца прызнаць страціўшымі сілу спісы помнікаў гісторыі і культуры мясцовага значэння, прынятыя пад ахову рашэннямі абл- выканкамаў і Мінгарвыканкама, а таксама пазбавіць «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», складзены Нацыянальнай акадэміяй навук, статуса афіцыйнага дакумента.

Такое рашэнне можа прывесці да непрадказальных наступстваў, калі некалькі тысяч аб'ектаў спадчыны будуць выведзеныя з-пад аховы дзяржавы. Неабходна таксама ўлічваць, што на шэрагу помнікаў гісторыі і культуры, якія, паводле пункта 2 праекта пастановы, могуць быць пазбаўленыя такога свайго статуса, праводзяцца рэстаўрацыйныя работы, фінансаванне якіх вядзецца як за кошт сродкаў рэспубліканскага або мясцовых бюджэтаў, так і з небюджэтных фінансавых крыніцаў. Асабліва ў апошнім выпадку ўзнікае рэальная небяспека адыходу ад рэалізацыі зацверджаных раней рэстаўрацыйных рашэнняў, якія трацяць сваю сілу разам з вывядзеннем аб'ектаў з-пад заканадаўчай абароны дзяржавы. Найбольш сумнавядомым фактам падобнага кшталту з'яўляецца знос віцебскай Дабравешчанскай царквы 12 ст., што стала магчымым у сувязі з выключэннем яе ў 50-я гады разам з іншымі аб'ектамі са спіса помнікаў. Па той жа прычыне ў другой палове 50-х – пачатку 60-х гадоў былі знішчаныя многія выдатнейшыя архітэктурныя помнікі 17-18 стст. у Віцебску, Магілёве, Слоніме, Пінску, Гродне.






Уверсе: выгляд комплексу былога іезуіцкага калегіума, касцёла і кляштара на плошчы Свабоды ў Мінску да перабудовы.
Унізе: выгляд тых жа будынкаў пасля рэканструкцыі, якая пазбавіла іх статуса помнікаў і гістарычных каштоўнасцяў

і архітэктуры 12-19 стст. Верхняга горада з ігнараваннем рэжыму ахоўнай зоны быў праведзены конкурс на распрацоўку архітэктурнай ідэі «Шматузроўневай аўтастаянкі з аб'ектамі гандлёвага і адміністратыўнага прызначэння» замест арганізацыі работы па рэгенерацыі гістарычнай тэрыторыі.

Парадак правядзення ўліку гісторыка-культурных каштоўнасцяў вызначаны Законам аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны. У адпаведнасці з пунктам 2 пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб увядзенні ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны» ад 13 лістапада 1992 года № 1941-XII з 1 студзеня 1993 г. належала ўвесці ў дзеянне артыкул 21 заканадаўчага акта, якім прадугледжанае стварэнне Дзяржаўнага спіса гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь. Аднак на сённяшні дзень у яго ўключана крыху больш за 500 аб'ектаў спадчыны з 15.679 помнікаў гісторыі і культуры рэспубліканскага і мясцовага значэння, узятых пад ахову дзяржавы ў 80-х – пачатку 90-х гадоў. Гэта ўсяго каля 3% ад агульнай іх колькасці.

Невыкананне артыкула 21 Закона аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны абумоўленае адсутнасцю планамернай і метадычна абгрунтаваных дзеянняў пры складанні гэтага надзвычай важнага дзяржаўнага ўліковага дакумента. Наяўны спіс дазваляе меркаваць, што аб'екты ўносіліся ў яго спантанна, інвентарызацыя помнікаў гісторыі і культуры рэспублікі свайго зацвярджэння ўжо шмат гадоў.

У той жа час забеспячэнне дзяржаўнай уліковай палітыкі ў адпаведнасці з пунктам 4 артыкула 8 Закона аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны аднесенае да прамой кампетэнцыі Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны. Да функцыянальных абавязкаў гэтага спецыялізаванага дзяржаўнага органа таксама адносіцца вырашэнне комплексу пытанняў, звязаных з выяўленнем і вывучэннем гісторыка-культурных каштоўнасцяў. Аднак на сённяшні дзень ніхто ў Рэспубліцы Беларусь не мае дакладных дадзеных пра колькасць наяўных аб'ектаў спадчыны, якія былі прынятыя пад ахову дзяржавы.

Нямала хібаў утрымлівае новы Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь, зацверджаны камітэтам. Хіба што самі яго складальнікі толькі і здольныя расшыфраваць крытэры пошуку аб'ектаў спадчыны. Алфавітна-адміністратыўны прынцып фарміравання ранейшых спісаў у новым дакуменце адкінуты начыста.

У працэсе складання Дзяржспіса, выносячы на разгляд Навукова-метадычнай рады пытанні «аб перазацвярджэнні статуса гісторыка-культурнай каштоўнасці» ў адносінах да рэальна існуючых помнікаў гісторыі і культуры, прынятых пад дзяржаўную ахову паводле адпаведных пастановаў Савета міністраў і рашэнняў аблвыканкамаў і Мінгарвыканкама, Камітэт па ахове гісторыка-культурнай спадчыны ўзяў на сябе дзяржавы, без дастатковых на тое падставаў было адмоўлена ў пацвярджэнні статуса каштоўнасці, яны былі знятыя з уліку і аховы. Так адбылося з часткай Ракаўскага прадмесця ў Мінску, дзе комплекс будынкаў 19 ст. па вул. Дзімітрава знаходзіўся пад аховай паводле пастановы СМ БССР. У выніку гэтага унікальны помнік быў знішчаны.

***Праз унясенне праекта пастановы Савета міністраў Рэспублікі Беларусь у прапанаванай форме, па сутнасці, робіцца спроба не толькі падмяніць дзеючы Закон аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны, але і яшчэ больш заблытаць працэдуру выканання яго палажэнняў аб уліку гісторыка-культурных каштоўнасцяў.***

Пад выглядам упарадкавання падатковых ільготаў прапануецца фактычна прыкрыць

Падрыхтаваўшы праект пастановы Савета міністраў Рэспублікі Беларусь, якую варта назваць не інакш як «Аб пазбаўленні дзяржаўнай аховы помнікаў гісторыі і культуры, уключаных у «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» і спісы абл- і Мінскага гарадскога выканкамаў», Камітэт па ахове гісторыка-культурнай спадчыны ў чарговы раз паказаў сваю няздольнасць забяспечыць эфектыўнае выкананне Закона аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны. Гаворка ідзе, па сутнасці, аб прафнепрыгоднасці яго супрацоўнікаў, якія за дзесяць гадоў не здолелі належным чынам арганізаваць улік помнікаў, што ў 80-х гадах ужо было зроблена без лішняй помпы і дыскусіяў музейнымі і акадэмічнымі работнікамі. Стварыўшы для сябе тупіковую сітуацыю уласнай бяздзейнасцю, Камітэт па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і надалей не бачыць шляхоў ажыццяўлення адной з асноўных функцый, якая звязаная з «вывучэннем гісторыка-культурнай спадчыны, выяўленнем і улікам каштоўнасцяў». Урадавыя дакументы, як відаць, для некаторых чыноўнікаў не з'яўляюцца стымулам працы».

Не надта многа надзеі, што цяперашні Савет міністраў здолее пазітыўна адрэагаваць на гэтае папярэджанне спецыялістаў. Але грамадства павінна ведаць, на якія страты асуджае нашу культуру і спадчыну пэўнае кола чынавенства.

**Аддзел культуры**

**ЛАЙДАЦТВА**

# Аўгустоўскі канал знялі з балансу

Палякі зацікаўленыя, каб вазіць турыстаў па Аўгустоўскім канале, а затым па Нёмане — у Гродна і Друскенікі. Пра гэта паведаміў журналістам галоўны архітэктар Гродзенскай вобласці А.Пархута. Але без дапамогі міжнародных фондаў зрабіць гэта, па яго словах, немагчыма. А таксама — без палякаў, паколькі тэхнічная дакументацыя знаходзіцца ў горадзе Аўгустове.

Нашы энцыклапедыі ўпарта маўчаць аб тым, што беларуская частка канала — помніка гідратэхнічнага будаўніцтва першай паловы XIX ст. цалкам разбураная. З 102 кіламетраў 22 км — на нашай тэрыторыі ў гэтак званай «памежнай зоне». Калі Саветы прыйшлі ў Заходнюю Беларусь у 1939 г., Аўгустоўскі канал ужо 100 гадоў знаходзіўся ў працоўным стане і выкарыстоўваўся для перавозкі грузаў і ў турыстычных мэтах. З польскага боку 80-кіламетровая частка дагэтуль у выдатным стане. Беларуская частка пратрымалася да 50-ых гадоў, пакуль канал не знялі з балансу. Ён стаў нічыйным, пачаў разбурацца і знішчацца.

Канал злучаны з Нёманам прыблізна напаўшляху паміж Гродна і літоўскімі Друскенікамі. У ідэале турысты з Польшчы маглі б трапляць у Беларусь і Літву, аглядаць гродзенскую архітэктуру, а потым апынацца на друскеніцкіх мінеральных водах. На жаль, у беларускага рэжыму зусім іншыя мэты. Яму не патрэбны канал, не патрэбныя турысты, якія, як чорт ладану, баяцца наведваць Беларусь. А палякаў і літоўцаў рэжым увогуле лічыць ворагамі.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

СПОРТ

## Сапернікам БАТЭ будзе «Мілан»

Вядомы італьянскі клуб «Мілан» стаў сапернікам барысаўскага БАТЭ ў 1/64 фіналу розыгрышу Кубка УЕФА. Такі вынік жараб'ёўкі, праведзенай у пятніцу Саюзам еўрапейскіх футбольных асацыяцыяў.

Матчы пройдуць 13 і 27 верасня. Згодна з жараб'ёўкай, першая сустрэча павінна была прайсці ў Італіі, але паколькі ў гэты ж дзень у Мілане пройдзе яшчэ адзін матч Кубка УЕФА ( з удзелам «Інтэра» — другога клуба з гэтага горада), УЕФА прызначыў першую гульню ў Беларусі.

Па рашэнні кіраўніцтва БАТЭ дамашнюю сустрэчу каманда правядзе не ў Барысаве, а ў Мінску, на стадыёне «Дынама». Як паведаміў БелаПАН прэзідэнт БАТЭ Анатоль Капскі, гэта звязанае з невялікай плошчай барысаўскага стадыёна (5.200 гледачоў).

Капскі выказаў задавальненне вынікам жараб'ёўкі: «Мы хацелі атрымаць у сапернікі «Мілан». З такімі клубамі мы сустракаемся не кожны дзень. У гульнях з італьянцамі нашы футбалісты будуць вучыцца і набірацца вопыту. Мы будзем гуляць для гледачоў і пастараемся выступіць як мага лепш. Хлопцаў мы заціскаць не будзем. Ні аб якой звышадказнасці за вынік не можа быць і гаворкі».

Напомнім, што па выніках дзвюх сустрэчаў кваліфікацыйнага раунда Кубка УЕФА БАТЭ перамог тбіліскае «Дынама» — 1:2 і 4:0.

Па выніках жараб'ёўкі 1/64 фіналу крыўдзіцель бабруйскай «Белшыны» ў кваліфікацыйным раундзе славацкі «Ружамберок» сустрэнецца з французскім «Труа», а балгарскі ЦСКА, які перамог салігорскі «Шахцёр», правядзе дзве сустрэчы з другім «Шахцёрам» — данецкім.

Не самае лёгкае жэрабя ў расійскіх камандаў. Махачкалінскі «Анжы» сустрэнецца з шатландскім «Рэйнджэрсам», маскоўскае «Тарпеда» — з англійскім «Іпсвічам», новарасійскі «Чарнаморац» — з іспанскай «Валенсіяй», і толькі маскоўскаму «Дынама» дастаўся не самы моцны сапернік — мальційская «Біркіркара». Цяжка давядзецца яшчэ аднаму постсавецкаму клубу — днепрапятроўскаму «Дняпру», якому жэрабя вызначыла ў сапернікі італьянскую «Фіярэнціну».

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

# Потеря девственных иллюзий

**Евгений Будинас. Дураки. Москва, 2001. Страниц 620**




Наконец в широкую продажу поступил роман известного писателя-публициста Евгения Будинаса «Дураки». Читатель мог получить его раньше, но в Беларуси не нашлось издателя, достаточно смелого для выпуска *такой книги*. Из достоверных источников известно, что авторский вариант обложки выглядел иначе, чем утвержденный издательством. По авторскому замыслу на обложке должно было присутствовать накатанное серебром зеркало, чтобы и читатель, глянув в него, не отделял себя в силу самомнения от многочисленных персонажей.

Жанр книги безусловно определяется той традицией, которая заложена популярными романами «12 стульев» и «Золотой теленок». Многим фразам из «Дураков» также суждено стать крылатыми. Можно назвать и некоторые сюжетные параллели с «Золотым теленком» – желание быстро стать очень богатым, теневая экономика, благородство махинаторов, золотые миражи и разбитое корыто в конце блестящей деловой карьеры. Роман открывается прологом о событиях десятилетней давности, когда главный герой – писатель-публицист — оставляет общественную деятельность для предпринимательской деятельности на ниве книгопечатания, и завершается возвращением к неблагодарному писательскому же ремеслу с огромным чувством радости, что остался жив и не попал в тюрьму, как множество иных, кому удача не выказала благосклонности.

Роману предшествует авторское предупреждение, что «все лица и события, описанные в этой книге, подлинные. Любые несовпадения имен, названий, фактов – случайность или оплошность автора». Читатель, естественно, понимает, что это маленькая авторская хитрость. Поскольку если бы имена героев совпадали с подлинными именами прототипов, то автор без сомнения уже сегодня пребывал бы за решеткой, а то и подальше – уж очень велик в романе объем криминальной информации, которая поражает воображение. Многие простодушные читатели вообще могут посчитать содержание «Дураков» за фантастику и, возможно, поступят правильно – не очень весело жить в мире, где все хорошие замыслы приводят в ад.

Назову для тех, кто еще не купил или не познакомился с этим новым удивительным произведением белорусского публициста, имена некоторых персонажей «Дураков»: политик Симон Поздний, писатель Виктор Козин, издатель газеты Павел Жуков, секретарь ЦК Евсей Орловский, кинорежиссер Юрий Хащ, художник Микола Купавин, спикер ВС Тушкевич, премьер Михаил Францевич Капуста (от англ. кебич), журналист Ванечка Старкевич, зав.хозяйством Всенародноизбранного Павел Павлович Тютюня, политик Виктор Столяр, всенародноизбранный Шурик Лукашонок, а еще на страницах действуют множество других – послы, министры, депутаты, полковники, перекрасившиеся партократы и т.д. Язык, на котором говорят персонажи, называется советским, некоторые пользуются «тутэйшым». Место действия не определено, но страна имеет государственный флаг, определяемый, как «закат над болотом». Сюжет переносит героя из деревни в столицу, в Швейцарию, Польшу, Германию, Россию и опять возвращает в деревенскую явь.

Предпринимательская фирма, возглавляемая Виктором Дудинскасом, называется «Артефакт», а главные события разворачиваются на фоне возрождаемой усадьбы Дубинки, в которой проходят фэсты старосветской культуры и которая украшена возвращенным из небытия ветряком, единственным уцелевшим в стране. В течение короткого времени благодаря титанической энергии Дудинскаса разрушенная после революции знаменитая усадьба превращается в знаменитый действующий музей ремесел, сюда собирается бомонд, привозят на экскурсии чиновных иностранцев, и КГБ развлекает здесь некоего шефа западной разведки. Экскурсанты видят действующие раритетные автомобили, в воздух их поднимает воздушный шар, тучные коровы дают молоко необычно высокой жирности, в кузне пылает жаром горн, растет табун элитных жеребцов, а в саду желающие забыться могут посмотреть на действующий самогонный аппарат и убедиться на вкус, что это не муляж. Все такие богатства усадьбы должны были показать, что при желании и у нас можно жить хорошо. Собственно, они это и продемонстрировали и соответственно вызвали бурю зависти, интриг и активных действий, направленных на то, чтобы стереть новую усадьбу с лица земли как вызов установленной советской справедливости.

Но крупные финансовые битвы происходят не на 150 га суглинка, которые осваивает коллектив «Артефакта», а в чиновных кабинетах вокруг главных проектов Виктора Дудинскаса – таможенной марки, единого комплекта документации, которые в случае реализации могут принести заветный миллион долларов. И тут читатель может познакомиться с механизмами многоходовых операций, и увидеть иезуитски изощренные действия государственных чиновников, заитересованных в том, чтобы таможенная марка, способная остановить потоки контрабанды и взяток, наполнить госбюджет миллиардом долларов, умерла в момент зачатия и не изменила белый свет. Именно такие интересы и разбивают вдрызг иллюзии Дудинскаса, тем более, что главный молот держит в руках Всенародноизбранный. Предательство и трусость чиновников, наезды налоговой полиции, финансовые проверки, штрафы, пеня, грязная конкуренция, усталость от безнадежной борьбы с государственной машиной в конце концов развеивают голубые мечты, которыми главный герой согревался в начале своего путешествия в мир больших дел и денег и которыми заражал (или обманывал) коллектив специалистов.

Попытки возвращения в общественную жизнь добавляют новые разочарования от непреходящей глупости интеллигенции, а расчеты на политические перемены заканчиваются трагическим исчезновением Виктора Столяра. Последнее слово в книге произносит Батька, одиноко обращаясь к своей овчарке. Он командует ей «Фас!», хоть вокруг нет никого.

Можно сказать, что в «Дураках» отразилось главное из минувшего десятилетия. Роман стал памятником нашей истории конца миновавшего века. Люди, которые прочтут это произведение Евгения Будинаса о старых и новых дураках, помимо удовольствия от изящной прозы еще, надо думать, поумнеют. И что важно, не на собственном, а на чужом тяжело добытом опыте. На своем опыте учатся дураки.

**Агнета КВЯТКЕВИЧ**



## Інфармацыя да ведама бацькоў

У сувязі з наборам дзяцей у падрыхтоўчыя класы нагадваем вам размяшчэнне **беларускіх школаў у г. Мінску:**

| Раён горада | Школа | Адрас |
|---|---|---|
| Заводскі | 68 | зав. Ахоцкі, 17 |
| Заводскі | Гімназія 14 | вул. Васняцова, 10 |
| Заводскі | 131 | вул. Убарэвіча, 74 |
| Кастрычніцкі | 89 | вул. Пухавіцкая, 21 |
| Кастрычніцкі | 110 | вул. Брэсцкая, 66 |
| Ленінскі | 2 | пр. Ракасоўскага, 93 |
| Маскоўскі | 60 | вул. К. Лібкнехта, 82 |
| Партызанскі | 72 | вул. Халмагорская, 59 |
| Першамайскі | Гімназія 9 | вул. Сядых, 10 |
| Першамайскі | 190 | вул. Нікіфарава, 19 |
| Фрунзенскі | Гімназія 4 | вул. Кунцаўшчына, 18 |

Акрамя таго, у шэрагу школаў існуюць шматгадовыя традыцыі беларускамоўнага навучання, хаця там ёсць як беларускія, так і рускія класы.

**Спіс школаў у г.Мінску з беларускімі і рускімі класамі:**

| Раён горада | Школы |
|---|---|
| Заводскі | 210 |
| Кастрычніцкі | 1, 11, 30, 52, 71, 90, 97, 168 |
| Ленінскі | 15, 40 |
| Маскоўскі | 3, 145, 170 |
| Партызанскі | 86, 108 |
| Першамайскі | 70, 84, 115, 137, 177, 184, 197 |
| Савецкі | 23, 66, 147, 187 |
| Фрунзенскі | 38, 81, 96, 138, 176, 211 |
| Цэнтральны | 35, 37,104 |

Калі ў Вас з'явяцца пытанні або праблемы з уладкаваннем на беларускамоўнае навучанне, паведамце пра гэта па тэлефоне: 213-43-52 (з 12.00 да 18.00) ці праз электронную пошту: tbm@tbm.lingvo.minsk.by

# Астрологический прогноз

## от Вероники Кудрявцевой на 27 августа-2 сентября

***Астропрогноз отражает общий природный социально-психологический фон наподобие прогноза погоды. Индивидуальное прогнозирование строится на точных данных: учитываются день, месяц, год, место и время рождения человека.***



**ОВЕН**. Похоже, что вам придется с кем-то активно спорить, отстаивая справедливость и «права человека». Противники готовы поймать на слово и довести до власть имущих ваши дерзости. Смотрите, как бы не отобрали документы. В субботу сентиментальность и рассеянность могут стоить вам денег. В выходные дни невозможно не любоваться вашей хозяйственностью, основательностью и домовитостью.



**ТЕЛЕЦ**. Учебные хлопоты, разного рода опросы и игра-торговля с партнерами воспринимаются остро в самом начале недели. Кто-то неожиданно покажет свой характер. Валютные и банковские операции лучше отложить до второй половины недели. В выходные дни заметно повышение вашего рейтинга, намечаются приятные встречи личного характера, которые могут принести пользу и в хозяйственном отношении.



**БЛИЗНЕЦЫ**. Ваше внимание больше сосредоточено на домашних проблемах или делах, связанных с самыми близкими людьми. Кто-то из доброжелателей, адвокатов или друзей в самом начале недели непреднамеренно способны подпортить достигнутый вами ранее успех. В выходные дни придется принимать гостей, впрочем – это доставит вам удовольствие.



**РАК**. По месту работы или учебы необходимо урегулировать юридические нюансы, заняться документами, хотя это стоит усиленных дискуссий в понедельник и вторник. Желательно не злить вышестоящих – они готовы пойти на крайние меры. В выходные дни вы становитесь любимцем аудитории, а кто-то успешно, вдохновенно кокетничает, флиртует, руководствуясь трезвым расчетом. В субботу постарайтесь не тратить деньги.



**ЛЕВ**. В самом начале недели финансы поют романсы по мелочам. Чем больше вы суетитесь, нервничаете, тратите их на детей, играете или спускаете их на удовольствия, тем больше дыра в кармане. Впрочем, она может быть залатана к выходным, но для этого придется обратиться к близким. Постарайтесь не задаваться в субботу вопросом, почему вас не любят, иначе дело дойдет до слез. Уж вам-то грех жаловаться на отсутствие внимания.



**ДЕВА**. Возникает спор с близкими по финансовым вопросам в понедельник, и если не остудить жар, то на следующий день придется считаться с чьими-то глупыми действиями. Скрупулезно отнеситесь к оформлению бумаг на имущество. В выходные дни кто-то окунется в бурную общественную жизнь, сделает важные заявки, причем сочетается трезвый расчет и счастливое стечение обстоятельств.



**ВЕСЫ**. Вы не ожидаете подвоха, но придется срочно реагировать на действия оппонентов, кляузников или просто недобросовестных людей в самом начале недели. Хотя не исключено, что вы сами вовлечены будете в какую-то интригу, способную разразиться скандалом. Не рекомендуются поездки и в это время. Кто-то в выходные дни готов щедро оплатить ваши услуги. Деньги сохранятся, если не устроите разгуляй в субботу.



**СКОРПИОН**. Если вы долго готовили сделку или какую-то операцию, то будьте поосторожнее в понедельник и вторник, когда по нелепости, документальной неточности, вы способны навлечь на себя штрафные санкции или потерять средства. Дружба дружбой, но сейчас деньги врозь. Однако в выходные дни вы способны наладить отношения, хозяйственная деятельность, обращение в высокие инстанции, дальние поездки результативны.



**СТРЕЛЕЦ**. Начальство «пугает» своими нововведениями. А может быть, кто-то претендует на ваше место? Наскоком ничего не решишь в начале недели. Мало того, вас способны обойти на повороте. В выходные дни продуманная рекламная кампания или времяпровождение где-нибудь на природе,-в деревне, в уединенных местах с влиятельными персонами способны укрепить ваши позиции. Необходимо поработать над своим имиджем.



**КОЗЕРОГ**. Вряд ли вы достучитесь в чьи-то кабинеты или решите вопросы по существу в самом начале недели. Скорее, почувствуете подвох, будете наблюдать скандал или чью-то тайную направляющую силу в самом начале недели. Иммунитет несколько ослаблен, поэтому избегайте лишний раз даже сквозняков. Кто-то из друзей становится надежным партнером. В воскресенье согревает огонь в семейном очаге, а кого-то – общественное признание.



**ВОДОЛЕЙ**. В самом начале недели вы способны вызвать огонь на себя не только симпатизирующих вам людей, но и толкающихся рядом. Какое-то громкое дело, как вулкан, вмешается в жизнь. Дорога не для вас. Ближе к выходным найдутся заступники, скорее всего – среди сослуживцев или медработников. Вы даже будете скрупулезно выстраивать последующие шаги, наполняясь жизненными силами, как наливное яблочко.



**РЫБЫ**. Проблемы лежат в области права, юридических или документальных разбирательств. Причем если в понедельник «качать права», то во вторник можно открывать кошелек в целях разрешения кризиса. Лучше отложить по возможности подобные дела на вторую половину недели. В выходные дни вас порадует успехами, своим отношением кто-то из членов семьи.

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**


Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1752 Нумар падпісаны ў друк 19/08/2001 (15:00) Наклад – 9.410